# ЗГОДА

ПАЛІТЫКА

N 27 (164) • 30 ВЕРАСНЯ 2000Г.






Фота IREX/ProMEDIA

«ДАЖЫНКІ–2000»

# «КАК УПОИТЕЛЬНЫ ПОД ШКЛОВОМ ВЕЧЕРА»

**Аляксандар Кавальскі**

**На чыгуначным вакзале Шклова ахоплівае пачуцьцё, што ты выпадкова перасёк дзяржаўную мяжу й апынуўся ў Эўропе: настолькі кантрастуе ўсё навокал з тым, што гадзіну таму пабачыў у Воршы. Толькі празь нейкі момант усьведамляеш, што гэта не замежжа, а проста сталіца «Дажынак–2000».**

Яшчэ ў мінулым годзе Шклоў меўся стаць месцам правядзеньня сьвята ўраджаю, таму на ягоны рамонт ужо тады было выдаткавана больш сямі трыльёнаў недамінаваных рублёў. Але з-за рэкордна нізкіх ураджаеў «Дажынкі–1999» давялося адмяніць: занадта ўсё б нагадвала пір пад час чумы. Сёлета на ўпрыгожваньне мястэчка выдаткавалі яшчэ шэсьцьдзесят мільёнаў. У выніку такога фінансаваньня Шклоў ператварыўся ў суцэльную пацёмкінскую вёску: усе фасады ў цэнтры пафарбаваныя ці пакрытыя панэлямі, дахі з мэталячарапіцы, нават на вакзальнай водапорнай вежы можна пабачыць шклопакеты. Само сабой, зроблены ходнікі з пліткі, а асфальт на дарогах раўнейшы ад сталічнага ды са сьвежай разьметкай. Шкада, што гэткі эўрарамонт быў зроблены толькі звонку, але ў астатніх райцэнтрах няма й такога. Удзячныя гараджане й за гарачую ваду, якую далі адмыслова да сьвята (звычайна нават узімку яна бывае толькі на выходныя), і за тое, што па вечарох у парку гараць прыгожыя ліхтары.

Першапачаткова «Дажынкі–2000» плянавалася праводзіць у два дні, але пасьля ўсе афіцыйныя мерапрыемствы ўціснулі ў адну суботу. А ў пятніцу сьвяткаваньні праводзілі на ўзроўні калгасаў і саўгасаў — мясцовыя начальнікі прастаўлялі сваім падначаленым. У Шклове ў гэты дзень адчынілі Сьцяну смутку, на якой выбітыя імёны загінуўшых пад час апошняе вайны мясцовых жыхароў, а таксама часова запалілі вечны агонь (працуе ад газавага балёна). Па ўсяму цэнтру горада й у парку свае палаткі разгарнулі гандлёвыя прадпрыемствы з большасьці абласьцей (акрамя Гарадзенскай ды Брэсцкай) і Менску. На кірмашы можна было набыць амаль любы тавар (дарэчы, гандляры мусілі два дні запар начаваць каля свайго тавару проста на вуліцы пры амаль нулявой тэмпэратуры), ці проста пасядзець з усёй сям'ёй у вулічнай кавярні, шашлычнай альбо піўной. Апошняй магчымасьцю шклаўчане карысталіся спаўна, бо ў горадзе няма месцаў падобнага адпачынку, акрамя кавярні «Лябірынт» і рэстарацыі «Явар», якія простым гараджанам не па кішэні. Сьвяточны настрой стваралі рознага кшталту музычныя калектывы. Зрэдку сьпявалі псэўдафальклёрныя песьні, якія прадстаўлялі як «беларускія народныя карагодныя» (не хапае толькі прыметніка «блатныя»), а так усё больш расейскую папсу ў беларускай аранжыроўцы. Асабліва запомніўся хіт «Как упоительны под Шкловом вечера», які бліжэй да ночы, калі колькасьць мінакоў зь няўпэўненай паходкай рэзка павялічылася, стаў падобны на праўду.

У суботу на сваю малую радзіму прыехаў прэзыдэнт, каб уласнаручна ўзнагародзіць сялян-перадавікоў. Пераможцаў бітвы за ўраджай аказалася нашмат менш, чым прыехаўшых менскіх і правінцыйных начальнікаў: у натоўпе дамінавалі шыкоўныя паліто й начышчаны абутак, а ня простая вопратка камбайнэраў. На ўрачыстасьць прыйшлі паглядзець і прэзыдэнцкія землякі. Лукашэнка застаўся непачутым сваім народам: дрэнна працавала гукаўзмацняльная тэхніка, таму людзі пачалі разыходзіцца яшчэ да завяршэньня сьпічу прэзыдэнта. Усе гэтыя агрэхі кампэнсаваліся, калі Аляксандар Рыгоравіч выйшаў на пешы шпацыр па вуліцы Савецкай. Абапал дарогі яго віталі шклаўчане. *«Як жывёце?»* — спытаў прэзыдэнт. *«Добра жывём. Дзякуй!»* — адказвалі бабулі з жабрачымі пэнсыямі, якія нават не маглі сабе дазволіць нічога набыць на кірмашы. Урачыстасьці на гэтым ня скончыліся. Для аматараў спорту мясцовая каманда прайграла вэтэранам «Дынама», для спэцзапрошаных адбыўся гала-канцэрт тых, каго прынята называць зоркамі беларускай эстрады. Астатнія маглі паслухаць артыстаў праз агароджу ці паглядзець відовішча ў трансляцыі БТ. Надоўга запомніцца шклоўцам і амаль дзесяціхвілінны феервэрк над ратушай, на які, па чутках, патрацілі пяцьдзесят тысячаў даляраў. Для параўнаньня: феервэрк на вясельлі галівудскіх актораў Брэда Піта й Джэніфэр Аністан каштаваў усяго дваццаць тысячаў. Што тут скажаш: пашанцавала Шклову з прэзыдэнтам. А Беларусі — не. ■

15 КАСТРЫЧНІКА

# РЭАЛЬНАЯ ПАГРОЗА

**Антон Ляўковіч**

**У выніку фільтрацыі акруговымі выбарчымі камісіямі з далейшай барацьбы за запаветны мандат была выключана пераважная большасць тых, каго можна назваць апазіцыянерамі. Як ні намагаліся гэтыя працаўнікі цяперашняй улады даказаць, што сабраныя іх ініцыятыўнымі групамі подпісы выбаршчыкаў сапраўдныя, а дэкларацыі аб даходах запоўненыя сумленна, ЦВК і Вярхоўны суд палічылі інакш.**

Лідзія Ярмошына нават выказалася ў тым сэнсе, што яе арганізацыя не нейкая там кантора па вытворчасці кандыдатаў. А Аляксандр Лукашэнка пад час наведвання Магілёўшчыны шчыра прызнаўся, што асабіста даў загад зарэгістраваць некалькі найбольш вядомых апазіцыянераў. Маўляў, няхай на выбарах пакажуць, на што яны здатныя. Пры нагодзе іх можна і розным там тэхнічным экспертам паказаць як прыклад канструктыўнай апазіцыі, якая *«бярэ ўдзел у супердэмакратычных выбарах»*.

Пасля адмовы ў рэгістрацыі амаль усім кандыдатам, сябрам БСДП, яе лідар Мікалай Статкевіч прыгразіў зняць сваю кандыдатуру ў знак салідарнасці з паплечнікамі. Але выглядае на тое, што сваёй заявай сп. Статкевіч не надта напалохаў улады. Па-першае, пагражаць можна колькі заўгодна, па-другое, калі лідэр сацыял-дэмакратаў і выканае сваю пагрозу, улады заўсёды змогуць патлумачыць гэты дэмарш звычайным страхам пацярпець паразу на выбарах.

Тым жа апазіцыянерам, якія кандыдатамі ў дэпутаты так і не сталі, у самы бліжэйшы час прыйдзецца вызначыць, што рабіць далей. А выбар не надта вялікі: альбо цалкам адысці ад палітычнай дзейнасці, альбо далучыцца да кампаніі байкоту.

Тэхналагічна правільна праведзеная кампанія байкоту можа прынесці добры плён. Так, паводле розных сацыялагічных апытанняў, толькі 13 адсоткаў выбаршчыкаў вераць, што восеньскія выбары пройдуць без фальсіфікацый. Каля 44 адсоткаў пакуль не вызначыліся з тым, удзельнічаць у гэтым фарсе ці не. Гэта значыць, што ў аб'яднанай апазіцыі ёсць вялікая дзялянка працы. Бо ад таго, наколькі актывістам кампаніі байкоту ўдасца пераканаць гэтую частку электарата ў слушнасці сваіх пазіцыяў, і будзе залежыць канчатковы вынік выбарчай кампаніі.

Гэта, здаецца, зразумелі і ўлады, узмацніўшы рэпрэсіі супраць байкатыстаў. Правесці выбары любым чынам, не аддаць палітычную ініцыятыву апазіцыі для ўлады зараз значна важней нават за прызнанне гэтых выбараў з боку міжнароднай супольнасці. Таму і цягнуць пікетчыкаў у міліцэйскі варанок на вачах назіральнікаў АБСЕ. Калі існуе рэальная пагроза зрыву выбараў, уладам не да далікатнасцяў перад Еўропай.

Улады зразумелі сваю памылку, дапушчаную ў Вене Сяргеем Мартынавым, які запэўніваў еўрапейцаў, што прыхільнікам байкоту ніхто перашкаджаць не будзе. Памылкай прызнаная і недапушчальная ліберальнасць Выбарчага кодэкса, які дазваляе гэты байкот. Цяпер, выносячы пакаранні апазіцыянерам, суддзі карыстаюцца выключна Адміністратыўным кодэксам, дзе захаваўся артыкул, які прадугледжвае пакаранне за заклікі да байкоту выбараў. Што да супярэчнасцяў паміж двума заканадаўчымі актамі, то старшыня Канстытуцыйнага суда Рыгор Васілевіч ужо паабяцаў ліквідаваць гэтую прававую калізію, натуральна, на карысць Адміністратыўнага кодэкса.

Афіцыйны Мінск лічыць, што любая саступка апазіцыі, якая можа хоць неяк змяніць баланс сілаў перад сёлетнімі, а ў перспектыве — і перад прэзідэнтскімі выбарамі, ёсць рэальнай пагрозай дзеючай уладзе. А калі ёсць пагроза, будзе і дэманстрацыя сілы, і ўсе заявы пра дэмакратычнасць выбараў так і застануцца пустымі дэкларацыямі, разлічанымі на замежнага спажыўца. ■

## АНЕКДОТ-С

Корреспондентка БТ спрашивает у жителя Шклова:

— Как вам понравился визит президента?

— А шел бы он...

— И так по всему городу: шутки, веселье, смех, — комментирует БТ.

***

Белорус приносит заявление в КГБ:

— Видите, у меня улетел попугай.

— Мы не занимаемся розыском животных.

— Но я здесь написал, что его мыслей не разделяю.

## НАВІНЫ

**НАЗІРАЛЬНІКІ.** Па запрашэнні югаслаўскага парламента група дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і членаў Савета Рэспублікі прыняла ўдзел у якасці назіральнікаў у прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбарах, якія прайшлі ў Югаславіі 24 верасня. Цікава, ці прыедуць югаславы ў Беларусь у якасці бартэра?



**АБВЯРЖЭННЕ.** Жонка знікшага год таму намесніка старшыні Вярхоўнага Савета XIII склікання Віктара Ганчара абвергла заявы работнікаў пракуратуры аб тым, што яе сям'я адмаўляецца дапамагаць следству і не прадстаўляе неабходных медычных дакументаў. «*Уся медычная інфармацыя пра мужа*, — сцвярджае Зінаіда Ганчар, — *знаходзіцца ў КДБ і пракуратуры, пра што я не раз паведамляла супрацоўнікам, якія вядуць расследаванне. Як відаць, афіцыйныя ўлады чарговы раз паказалі, што галоўная іх задача — не эфектыўнае расследаванне справы аб выкраданні кіраўніка Вярхоўнага Савета, а ўвядзенне ў зман беларускай і сусветнай грамадскасці і ўтойванне сваіх злачынстваў*».

**ЗАТРЫМАННЕ.** Упраўленнем КДБ па Гомельскай вобласці затрымана пад час атрымання хабару загадчыца аддзялення абласной спецыялізаванай клінічнай бальніцы. Як высветлілася, за 150 даляраў ЗША яна абавязалася забяспечыць паўнацэннае і кваліфікаванае лячэнне жонкі аднаго з іншаземцаў, які працуе ў Гомлі. КДБ узбуджана крымінальная справа. Матэрыялы справы перададзеныя для расследавання ў Гомельскую абласную пракуратуру.

**РЭЙТЫНГ.** Thomson Financial BankWatch — найбольшае ў свеце агенцтва, якое займаецца ацэнкаю крэдытных рызык, — у сваім апошнім аглядзе падвысіла крэдытны рэйтынг Беларусі. Праўда, нягледзячы на павышэнне, Беларусь па-ранейшаму знаходзіцца ў «*зоне высокай рызыкі*». BankWatch адзначае высокі ўзровень інфляцыі ў Беларусі — найвышэйшы сярод краін СНД. На думку экспертаў агенцтва, інфляцыя падрывае магчымасць эканамічнай стабілізацыі ў нашай краіне.

**КРЭДЫТ.** Беларускі ўрад спадзяецца дасягнуць канкрэтных дамоўленасцяў аб фінансаванні з боку МВФ і Сусветнага банка пад час штогадовых сходаў кіраўніцтва гэтых міжнародных арганізацый 26—28 верасня ў Празе. Урад Беларусі разлічвае атрымаць крэдыт у памеры да 50 мільёнаў даляраў. Пры гэтым найбольш перспектыўным выглядае праект энергазберажэння на аб'ектах сацыяльнай сферы. Беларусь выканала асноўнае патрабаванне міжнародных фінансавых арганізацый і ўніфікавала абменны курс беларускага рубля. Бліжэйшымі днямі будзе зроблены апошні, вельмі важны крок па лібералізацыі валютнага рынку — дазволены імпарт за беларускія рублі.

**ПРАЕКТ.** У Палату прадстаўнікоў паступіў праект рэспубліканскага бюджэту на 2001 год. Мяркуецца, што асноўны фінансавы дакумент краіны будзе разгледжаны 28 верасня на двух сумесных паседжаннях пастаянных парламенцкіх камісій. Упершыню за апошнія некалькі гадоў бюджэт краіны можа быць зацверджаны парламентам да наступлення новага каляндарнага года. Такім чынам урад выканае даручэнне, якое Аляксандр Лукашэнка даў 11 красавіка пад час свайго штогадовага «*паслання парламенту*».

**ДЭМАГРАФІЯ.** На 1 студзеня 2000 года колькасць людзей, старэйшых за 60 гадоў, перавысіла ў Беларусі колькасць дзяцей у веку да 15 гадоў. Пра гэта як пра адну з дэмаграфічных праблем Беларусі паведаміў на прэс-канфэрэнцыі галоўны пазаштатны спецыяліст у герыятрыі Міністэрства аховы здароўя краіны Уладзімер Сыты.

**ДЫЗЕНТЭРЫЯ.** У Лідзе працягваецца эпідэмія дызентэрыі. 21 верасня ў горадзе былі шпіталізаваныя 86 чалавек, 36 з якіх — дзеці. Усяго з 7 верасня з дыягназам «дызентэрыя» шпіталізаваныя 189 хворых. Ужо цяпер лекары-эпідэміёлагі з вялікаю доляю ўпэўненасці мяркуюць, што прычынаю масавага заражэння вострым інфекцыйным захворваннем сталася спажыванне прадуктаў, выробленых на Лідскім малочна-кансэрвавым камбінаце, праца якога з 10 верасня прыпынена. Малочная прадукцыя завозіцца цяпер у Ліду з Гродна і Навагрудка.



**ФУТБОЛ.** Эдуард Малафееў назваў кандыдатаў на адборачныя матчы чэмпіянату свету па футболе са зборнымі Польшчы і Арменіі. Перадматчавы збор футбалістаў нацыянальнай зборнай пачнецца 2 кастрычніка ў Стайках пад Мінскам. Пасля першага тура зборныя Беларусі і Польшчы — лідэры ў сваёй адборачнай групе. Беларусы перамаглі дома каманду Уэльсу — 2:1, а палякі ўдала згулялі ў гасцях з украінцамі — 3:1.

## ХИТ-ПАРАД ГЛУПОСТИ



**ДЕФИЦИТ**

«В городе очень мало депутатов».

(Т. Филимончик, председатель Советского райисполкома Гомеля, «АТН», 27.09.00)



**КАПИТАЛ**

«Чтобы их [советов] интеллектуал использовался для повышения доходной части бюджета».

(П. Шипук, председатель Совета республики, «Политические диалоги», 25.09.00)



**СПЕКУЛЯНТЫ**

«Осталась самая малость — научиться дороже торговать».

(А. Лукашенко, президент РБ, визит на завод «Красный борец», 22.09.00)

## 15 ОКТЯБРЯ

# СОБАКА БЫВАЕТ КУСАЧЕЙ

**Александр Сдвижков**

**Не только в Минске, но и в Борисове избиратели собираются бойкотировать депутатские выборы. 22 сентября полсотни жильцов двух борисовских девятиэтажек собрали возмутительные подписи и устроили несанкционированный пикет.**

В Борисове поводом для несанкционированного пикета жителей двух панельных домов стали перманентно текущие стыки и крыша. Причем в отдельных подъездах течет с девятого по первый этаж. В квартирах пластами отваливается штукатурка, замыкает электропроводка, сгорают лампочки и телевизоры.

Борисовские власти не спешат спасать жильцов и пока еще жилой фонд от пожаров и потопов. В горжилкомхозе считают еще худшим бедствием капремонт этих аварийных домов по улице Гагарина. Поэтому жилищные чиновники предпочитают отделываться отписками.

Но накануне чудовищно важной государственной акции в виде палатных выборов, жильцы домов с протечками решили, что их час настал. Ведь когда-то советский народ, недовольный удовлетворением своих возрастающих потребностей, очень любил угрожать начальникам неучастием в выборах всяких советов трудящихся депутатов.

Бэсэсэровские времена далече, но нынешние начальники, как встарь, стремятся обеспечить максимальный процент проголосовавших за кандидатов единого блока президентской вертикали. А по сему, чтобы привлечь внимание градоначальства, жертвы борисовской домостроительной индустрии выступили в самой резкой форме против выборов.




Жильцы, пикетировавшие свои дома, обрядили в красные трусы и зеленую футболку боксерку Джесси. Собаке одеяние государственной расцветки пришлось по вкусу, чего не скажешь о ее хозяевах. По мнению коммунальных страдальцев, жизнь у них «*собачья*», и на эти «*собачьи*» выборы они не пойдут.

Ни один из претендентов на депутатство, баллотирующихся по Борисовскому городскому избирательному округу, перед пикетчиками не появился. Видимо, кандидатам не хотелось раздавать обещания в стиле президента Лукашенко, *а президентскими возможностями они не располагают*.

Вместо разговоров с озверелыми избирателями кандидаты в депутаты предпочли дебаты с интеллигентными и симпатичными журналистками газеты «Борисовский курьер». Хорошо поговорили о политике. Даже внесли свой вклад в развитие политологии. Сообща придумали некую «*президентскую*» форму правления. ■

## КОНФЕРЕНЦИЯ

# МОДЕЛИ РАЗВИТИЯ

В Международном образовательном центре 25 сентября состоялась международная конференция «Беларусь — модели будущего». На ней группа под руководством экс-спикера Верховного Совета Мечислава Гриба представляла второй, переработанный вариант концепции развития Беларуси. Напомним; что впервые проект концепции «Стратегия для Беларуси» обсуждался на международной конференции в марте. Тогда известные экономисты и политологи высказали ряд замечаний и предложили доработать концепцию.

Нынешняя конференция ставила своей задачей обсудить лишь часть подготовленной концепции, касающуюся моделей развития Беларуси. Лидерам ведущих политических партий страны было предложено выступить со своей оценкой концепции, что они и сделали. Свои замечания разработчикам высказали Павел Данейко (ОГП), Владимир Нистюк (БСДП), Юрий Ходыко (БНФ), Олег Трусов (БСДГ). Довольно высоко оценили работу экспертов представители иностранных посольств в Беларуси. ■

## АКЦИЯ

# ЗА ЧТО БОРОЛИСЬ

**Александр Кавальский**

**Штраф в размере двух минимальных заработных плат получили задержанные 24 сентября члены антифашистской группы «Чырвоны Жонд» за свою акцию «Освоение пространства».**

Не попав на левацкие беспорядки в Праге, приуроченные к саммиту Всемирного банка и МВФ, белорусские анархисты решили протестовать против политики глобализации в Минске. Художественно-политическая акция «Освоение пространства» включала в себя оккупацию предназначенного под снос дома на улице Мясниковича и оживление его методами перфоманса, концерта и граффити. Вдохнув новую жизнь в аварийное здание, реаниматоры уже закрывали замок на двери, когда акцией заинтересовалась милиция. Шестеро участников были задержаны с применением силы. Из шестерых двое были журналистами, зря фиксировавшими, как оказалось, творческое действо на фото- и видеокамеру — фотопленка была засвечена, а видеозапись размагничена. Еще одну участницу, несовершеннолетнюю, передали родителям. Остальных, продержав около суток в Московском РОВД, оштрафовали за мелкое хулиганство, матерщину и оказание сопротивления при задержании. Возможно, наши власти так и не поняли, что ребята боролись с мировым империализмом. ■

## 15 КАСТРЫЧНІКА

# ЗЯЛЁНАЕ СВЯТЛО

**Ян Каліноўскі**

***Для сваіх надзейных прадстаўнікоў улады запалілі зялёнае святло на шляху да сваёй жа Палаты прадстаўнікоў. Віцебская вобласць у гэтым плане не выключэнне.***

Каб, крый Божа, не дапусціць ненадзейных таварышаў, мясцовыя ўлады спачатку выкрэслілі са спісаў выбарчых камісій 107 прадстаўнікоў дэмакратычных партый, якія, дарэчы, прайшлі адмысловыя семінары і маюць пэўны вопыт у гэтай працы. Затое лекарам, выхавацелям, а таксама бэпэсээмаўцам і вертыкальшчыкам у камісіях заўсёды радыя.

Потым камісіі прыняліся за кандыдатаў у дэпутаты. Кажуць, што да некаторых акруговых выбаркамаў давялі загад правесці выбары ў адзін тур і з адпаведным вынікам на карысць «*правільнага*» кандыдата. Таму нявартымі ганаровага звання «*палатнік*» камісіі палічылі амаль усіх незалежных (чытай, «*ненадзейных*») кандыдатаў і без роздуму выключылі іх са спісаў, каб потым галава менш балела.

У ліку выкрэсленных апынуліся кіраўнік абласной арганізацыі АГП Г. Муратаў, беспартыйны В. Шчукін, прадстаўнік БСДП Ю. Лаўрэнаў. Пазней ЦВК палічыла рашэнне акруговай камісіі ў адносінах да Лаўрэнава памылковым і адмяніла яго. Аказваецца, гэтыя пісьменныя людзі нарабілі шмат памылак пры афармленні дакументаў.

Вось у цяперашніх палатнікаў з памылкамі ўсё добра. У тым сэнсе, што і на паперы, і ў галаве ўсё як след. Усёй сваёй папярэдняй працай В. Аляксандраў, В. Бурак і М. Бялоў заслужылі права прадстаўляць Віцебскую вобласць у палаце яшчэ раз. Па найвялікшаму жаданню асобных працоўных калектываў яны былі вылучаны кандыдатамі ў дэпутаты (і ніякіх подпісаў збіраць не трэба). А мясцовыя сродкі масавай інфармацыі без усякіх прыкрасаў расказалі чытачам пра іх нястомную працу на заканадаўчай ніўцы Беларусі. Таму можна не сумнявацца ў тым, што для іх дарога ў парламент ужо адчынена. ■



ПАРАЛЛЕЛИ

# ЛЕКАРСТВО ОТ АВТОРИТАРИЗМА

**Александр Сдвижков**

**Авторитаризм и демократия суть вещи несовместные. Эту политологическую теорему еще раз доказали сербские оппозиционеры на президентских выборах 24 сентября.**

Не только политактив сербской оппозиции празднует поражение Слободана Милошевича на выборах президента Союзной Республики Югославия. Абсолютное большинство сербов считает, что де-факто победил Воислав Коштуница. Хотя де-юре еще предстоит второй тур голосования, и Милошевич должен расстаться с президентскими полномочиями летом будущего года.




Ничто не могло поколебать позиции великосербского каудильо Милошевича. Развал экономики страны, четыре проигранных войны, мощное давление мирового сообщества лишь укрепляли диктатуру. Только демократическое волеизъявление сербов помогло им продвинуться по пути избавления от посткоммунистического диктатора.

Для приверженцев авторитарных принципов итоги голосования 24 сентября весьма неутешительны. Уходит один из одиознейших диктаторов планеты. Слободан Милошевич давно уже стал притчей во языцех всего цивилизованного мира — наряду с Муаммаром Каддафи, Садамом Хусейном и Александром Лукашенко.

Отныне очередь за белорусским президентом. Тем паче, Лукашенко тоже собирается устроить президентские выборы. А наш диктатор играет в демократию гораздо больше и чаще, чем его друг Слободан.

Белорусским оппозиционерам осталось воспользоваться сербским лекарством от авторитаризма. Рецепт его прост: выдвинуть реальную альтернативу в виде единого кандидата всех недовольных правлением Александра Лукашенко. Иначе белорусский каудильо будет царствовать не 13 лет, как Слободан Милошевич, а намного больше.

Фигура единого кандидата от белорусской оппозиции должна, подобно Воиславу Коштунице, устраивать и варварский Восток, и цивилизованный Запад.

Москва уже сегодня согласна на всестороннюю поддержку альтернативы белорусскому каудильо. Заморожена интеграция по модели Ельцина-Лукашенко. Даже выборы депутатов в так называемую «Союзную палату представителей» в Кремле и в Охотном ряду рассматриваются как способ «приучить белорусов к демократии».

С российским подходом согласна и Европа. Еще на питерской встрече с Тони Блэром Владимир Путин отмежевался от Милошевича, свалив всю вину за косовский авантюризм России на престарелого Ельцина и красно-коричневую Думу. Затем Москва поочередно обласкала вождей сербской оппозиции. Результат не замедлил проявиться. Вскоре жесткая критика России за чеченские зверства уступила место благожелательному пониманию проблем борьбы с исламским терроризмом.

Если в белорусском вопросе Европа окажет на Россию подобное давление, то уже через год Беларусь будет без Лукашенко. А российско-белорусский союз постигнет участь остатков Югославии царя Александра и маршала Тито. Ведь ныне от Сербии отделяется не только Черногория, но и Воеводина. ■

FROM BYELORUSSIA WITH LOVE

# ДАРЭМНЫЯ СПАДЗЯВАНЬНІ

**Таццяна Папова**

**Чарговая восеньская сустрэча кіраўніцтва Сусьветнага банку й Міжнароднага валютнага фонду згуртавала ў Празе больш як 15 тысяч дэлегатаў ад краін-удзельніц і лепшых эканамічных экспэртаў.**

Такія сустрэчы праводзяцца штогод, прычым два разы запар у Вашынгтоне, а на трэці год — у краіне, якая дачакалася ганаровага права прымаць у сябе грантадаўцаў і эканамічных экспэртаў. Абраньне для сёлетняе сустрэчы чэскае сталіцы сьведчыць аб прагрэсе, дасягнутым дзяржавай у разьвіцьці трывалай дэмакратыі й рынкавай эканомікі за апошнія 11 год.



Імклівы рост коштаў на нафту на сусьветных рынках зрабіў паліўны крызыс, бадай, галоўнай тэмай перамоў паміж удзельнікамі сустрэчы. Урады большасьці эўрапейскіх краін паклапаціліся аб выгаднасьці імпартаваньня з-за мяжы нафтавае сыравіны. Цяпер, калі імпартэры чорнага золата ня здольныя забясьпечваць сусьветныя патрэбы на ранейшых умовах, востра паўстала праблема распрацовак новых радовішчаў сыравіны. Такія праекты вымагаюць велізарных інвэстыцый. Таму цяпер кіраўніцтвы *большасьці краін* маркуюць скарыстацца са стратэгічных запасаў нафты, каб паменшыць кошты на паліва для шараговых спажыўцоў. Але рэзэрвуары не бяздонныя, таму неўзабаве давядзецца ствараць новыя нафтаздабываючыя кампаніі.

Напярэдадні глябальнага сходу была прэзэнтавана справаздача Сусьветнага банку аб сусьветным разьвіцьці 2000–2001 году «Барацьба зь беднасьцю». Пасьля азнаямленьня з гэтым дакумэнтам, шмат хто з удзельнікаў праскае сустрэчы сур'ёзна задумаўся аб праблемах беднасьці й галечы ў сьвеце. Адмысловы даклад Сусьветнага банку закрануў пытаньні вырашэньня эканамічных праблем ва Усходняй Эўропе й краінах СНД. Прэзыдэнт Сусьветнага банку Джэймс Вульвэрсан вызначыў мэтай дакладу дапамогу ў лепшым і глыбейшым усьведамленьні таго, чым ёсьць беднасьць, і што становішча яе перадумовамі, а таксама прапанову мэраў, што павінны садзейнічаць стварэньню сьвету, вольнага ад беднасьці ва ўсіх яе праявах.

Адлаведна дадзеным Сусьветнага банку, 2,8 мільярда чалавек жывуць меней чым на 2 амэрыканскія даляры ў дзень. Амаль палова зь іх мусіць траціць не больш аднаго даляра ЗША ў суткі. Наша дзяржава таксама ўважаецца за бедную краіну. Колькасьці беларусаў, існуючых у такіх жабрацкіх умовах, вар'іруецца ад 44 да 52 адсоткаў, у залежнасьці ад гарадзкіх ці вясковых умоў жыцьця. Міністар эканомікі Шымаў неяк заявіў, што крытэры, якімі карыстаюцца міжнародныя фінансавыя структуры, неаб'ектыўныя. Яго ўстанова распрацавала ўласны спосаб вызначаць становішча чалавека адносна рысы беднасьці. Парытэт пакупніцкае здольнасьці ў нашай краіне складае 510 USD штомесяц. Таму жаліцца беларусам няма чаго.

Галоўны эканаміст і старэйшы віцэ-прэзыдэнт Сусьветнага банку Нікалас Стэрн прапанаваў агульны альгарытм дзеяньняў для выхаду з галечы й вываду эканомікі з занепаду. Па яго меркаваньні, пашырэньне агульных эканамічных магчымасьцяў — то бок, забесьпячэньне росту, пладамі якога здолее непасрэдна скарыстацца несамавіты народ, — як і раней, мае вырашаючае значэньне. Для гэтага, у сваю чаргу, патрэбныя рынкавыя рэформы, інстытуцыянальнае разьвіцьцё й інвэстыцыі ў сыстэмы ахоўы здароўя і адукацыі, а таксама ў разьвіцьцё інфраструктуры.

Беднасьць ня ёсьць нечым непазьбежным. Скарачэньне галечы вымагае хуткага эканамічнага росту на шырокай базе. Гэта прывядзе да зьяўленьня новых працоўных месцаў, павышэньня заработнае платы й паляпшэньня сытуацыі зь дзяржаўнымі даходамі. Для дасягненьня гэтае мэты неабходна палепшыць умовы для інвэставаньня й стварэньня новых прадпрыемстваў, асабліва малых. Малы й сярэдні бізнэс ёсьць галоўнай крыніцай эканамічнага росту ў найбольш разьвітых краінах зь пераходнай эканомікай. Значная ўвага ўрадаў мусіць скіроўвацца на абарону беднага насельніцтва.

На словах кіраўніка прадстаўніцтва Сусьветнага банку ў РБ Сяргея Куліка, беларуская дзяржава праяўляе вельмі актыўны клопат аб бедным насельніцтве. Больш як 50 адсоткаў бюджэту штогод накіроўваецца на сацыяльныя патрэбы. Тым ня менш, з кожным годам колькасьць незаможных насельнікаў краіны павялічваецца. Таму цяпер перад кіраўніцтвам й урадам рэспублікі пастаўлена задача: прасачыць, ці дастаткова рацыянальна гэтыя грошы выкарыстоўваюцца.

Сусьветны банк прапанаваў назіраць за разьмеркаваньнем грошай і дынамікай макраэканамічных паказальнікаў разам. Нічога крыўднага для Шымава тут ня мусіць быць. Безьліч краін удзельнічаюць у праграмах Сусьветнага банку, не патрабуючы грошай. Гэта велізарны дыстыплінуючы фактар.

Беларуская дэлегацыя накіравалася ў Прагу, каб актывізаваць узаемадачыненьні зь Міжнародным валютным фондам і Сусьветным банкам. Яна спадзяецца, што міжнародныя фінансысты возьмуць да ўвагі жорсткую манетарную й бюджэтную палітыку беларускага ўраду, пазытыўныя стаўкі рэфінансаваньня Нацбанку, рэгулярную аплату Нацбанкам жа дэфіцыту бюджэту й аб'яднаньне афіцыйнага й рэальнага курсаў USD. Усе гэтыя дасягненьні пераконваюць нашых дэлегатаў у рэальнасьці атрыманьня тэхнічнага крэдыта ці ўдзела ў якой-небудзь праграмы.

Глябальныя ж фінансавыя структуры зь вялікім энтузыязмам разьбіраюцца з голадам у Афрыцы й азыяцкім эканамічным крызысам. На намесьніка беларускага прэм'ера Навіцкага зьвярнуў увагу толькі віцэ-прэзыдэнт Сусьветнага банку рэгіёну Эўропы й Цэнтральнае Азыі спадар Лін. У часе сустрэчы была дасягнута дамоўленасьць аб кароткатэрміновай неафіцыйнай праграме без фінансаваньня. Па яе выніках можна будзе весьці гаворку аб супрацоўніцтве на ўмовах пагадненьня stand-by. Разьлікі па ўмовах такога пагадненьня пачынаюцца праз 2 гады й тры месяцы пасьля пазыкі. Агульны час для выплаты ўсяе сумы — 4 гады. Апошні раз Беларусь атрымлівала грошы па лініі *stand-by* у лістападзе 1996-га году. З запланаваных 196 зь лішкам мільёнаў дзяржава атрымала толькі 50. Пасьля гэтага ў нацыянальнай эканоміцы пачаўся такі вэрхал, што фінансаваньне перапыніні. Цяпер жа пра крэдыты можна будзе размаўляць, калі Беларусь саступіць каму-небудзь сваё першае месца на постсавецкай прасторы па тэмпах інфляцыі.

Вандроўка ў Чэхію для дэлегацыі Навіцкага будзе мець плён ва ўсялякім выпадку. На такіх сустрэчах вырашаюцца тыя пытаньні, па якіх немагчыма было дамовіцца з місыянэрамі ад Сусьветнага банку й МВФ на працягу года. Пакуль беларусы могуць ціха радавацца толькі праграме грантавых сродкаў, распачатай увесну італьянскім прадстаўніцтвам і Сусьветным банкам. Гэтыя структуры ажыццяўляюць мэтадалягічную дапамогу Міністэрствам статыстыкі і сацыяльнай абароны. ■

ПО СТРАНАМ И КОНТИНЕНТАМ




**США.** В одном из роликов кандидата в президенты США Буша-младшего, критикующем план его соперника-демократа Эла Гора по реформированию системы здравоохранения, на 1/30 секунды появилось слово «крысы». Этим эпитетом создатели ролика воспользовались, чтобы постращать зрителей, на чьи плечи Гор возлагает выполнение своей реформы. Когда уловку обнаружили, разразился скандал с обвинениями Буша в попытке воздействовать на подсознание избирателей. Это разоблачение — еще один случай в веренице неудач, постигших кампанию Буша. Результат налицо: если еще в начале августа Буш-младший уверенно лидировал, то сейчас, за 40 дней до выборов, он стабильно отстает от Гора.

**ФРАНЦИЯ.** Жозеф Бове, лидер французский фермеров, разрушивший в родном городке закусочную МакДональдса, приговорен к одному году тюремного заключения. Это новость вызвала приступ ярости у противников глобализации. Накануне открытия Олимпиады они организовали в Мельбурне массовые беспорядки.

**КИТАЙ.** В провинции Фудзянь на скамье подсудимых оказались 200 аппаратчиков из местного обкома. Китайские гдляны-ивановы раскопали факты коррупции и незаконной торговли иномарками. Почти всем, проходящим по делу, грозит высшая мера.




**ИНДИЯ.** В Бомбее страшно выходить на улицу. Идут разборки между городскими бандами. Все началось в Таиланде, где бомбейский авторитет Шхота Рахан был тяжело ранен шестью неизвестно откуда взявшимися киллерами. Сам дон спасся, спрыгнув с балкона, но погибли его дочери, жена и заместитель. Ответственность за нападение взял на себя лидер другой банды Шакел, с которым Рахан не может поделить наркорынок.

**ПАЛЕСТИНА.** День 13 сентября должен был стать судным для израильтян. В этот день Ясир Арафат намеревался провозгласить независимость Палестины, что непременно послужило бы знаком к арабским выступлениям. Однако по просьбе Сирии, спонсирующей ООП, решено праздник перенести. Новый День независимости назначен на 15 ноября.

**УКРАИНА.** На Украине громкое похищение. Пропал Георгий Гонгадзе — редактор интернет-газеты «Украинская правда». Среди подозреваемых — фаворит Кучмы олигарх Волков, на которого накануне Георгадзе опубликовал компромат. Другие полагают, что Волков не неврастенник, воюющий с властью. По версии властей, Георгий решил своим исчезновением сделать промоушен изданию, либо поехал воевать в Ичкерию.



